● выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● кошт 3000 рублёў

27 жніўня 1998 г. чацвер, № 168 (23519)



# ЗВЯЗДА

## ПЕРАГАВОРЫ А. Р. ЛУКАШЭНКІ І Л. Д. КУЧМЫ ПАЧАЛІСЯ З АБМЕРКАВАННЯ ПРАБЛЕМ

У Крыме, дзе на адпачынку знаходзіцца кіраўнік украінскай дзяржавы, адбылася першая з намечаных сустрэч Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі з Прэзідэнтам Украіны Л. Д. Кучмам. Адразу пасля прылёту ў Крым у інтэрв'ю журналістам А. Р. Лукашэнка сказаў, што мае намер абмеркаваць са сваім калегам праблемы, якія існуюць ва ўзаемаадносінах паміж нашымі дзяржавамі, у прыватнасці праблему ажыццяўлення ўжо дасягнутых дамоўленасцяў. Беларускі прэзідэнт выказаў трывогу наконт таго, што некалькі затармазіўся беларуска-украінскі тавараабарот. У мінулым годзе ён складаў паўтара мільярда долараў, а сёлета, ёсць апасенні, можа не дасягнуць гэтай лічбы. Кіраўнік беларускай дзяржавы паведаміў аб намеры прапанаваць Прэзідэнту Украіны свае бачанне шляхоў выхаду з узнікшага становішча і падзяліцца тым вопытам, які ёсць у Беларусі.

Як паведамлена прэсе, пасля першай сустрэчы прэзідэнтаў у ходзе гутаркі былі прааналізаваны стан беларуска-ўкраінскіх адносінаў, магчымасці іх далейшай актывізацыі, асабліва гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва. Вялікая ўвага была ўдзелена існуючым у гэтай сферы нявырашаным пытанням. Значная частка гутаркі была прысвечана задачам рэфарміравання Садружнасці Незалежных Дзяржаў з такім разлікам, каб гэта прывяло да належнага ўліку і забеспячэння нацыянальных інтарэсаў кожнага з удзельнікаў Садружнасці.

Абгрунтаваны абмен думкамі адбыўся і наконт сусветнага фінансавага крызісу. Прэзідэнты разгледзелі магчымыя меры, якія дапамаглі б пазбегнуць яго негатыўнага ўздзеяння на эканамічнае становішча Беларусі і Украіны.

**БЕЛТА.**

## А. ЛУКАШЭНКА, Л. КУЧМА І В. ЧАРНАМЫРДЗІН ПРАВЯЛІ ТРОХБАКОВЫЯ КАНСУЛЬТАЦЫІ

Вечарам 26 жніўня Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка і Прэзідэнт Украіны Л. Д. Кучма, якія цяпер праводзяць рабочыя сустрэчы ў Крыме, сустрэліся з выконваючым абавязкі кіраўніка расійскага ўрада В. С. Чарнамырдзіным, які таксама прыбыў у Крым па даручэнню Прэзідэнта Расіі Б. М. Ельцына. Як падкрэслілі ў Адміністрацыі кіраўніка беларускай дзяржавы, адбыліся трохбаковыя кансультацыі па важнейшых палітычных, эканамічных, фінансавых пытаннях з пункту гледжання агульнасці доўгатэрміновых дзяржаўных інтарэсаў трох краін, вырашэння актуальных праблем у рамках СНД, стабілізацыі фінансавых сістэм, павышэння эфектыўнасці гандлёва-эканамічных сувязяў.

**БЕЛТА.**



**Агарод наш невялічкі, але хопіць на дваіх.**

Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

*Анатоль ДРАЗДОЎ:*

## Крах рынка ДКА Беларусі не пагражае

**Фінансавы крызіс, які працягваецца зараз у Расіі, многія аналітыкі гэтай краіны звязваюць з «падзеннем» фондавага рынку, а потым і поўным крахам рынку ДКА. У якім стане знаходзіцца беларускі рынак ДКА, як ён можа паўплываць на фінансавае становішча краіны? На гэтыя і іншыя пытанні карэспандэнту «Звязды» адказвае начальнік упраўлення інфармацыі Нацыянальнага банка Беларусі Анатоль Драздоў.**

— Справа ў тым, што ў Расіі менавіта праз рынак ДКА дзяржава запазычыла вельмі шмат грошаў унутры краіны. Дзяржава сама стварыла буйную фінансавую піраміду, калі для таго, каб выкупіць назад свае каштоўныя паперы і аддаць працэнты па іх, яна выпускала ў свет наступную, яшчэ большую партыю ДКА. Але пры дрэнна працуючай эканоміцы такая дзяржаўная піраміда была асуджана на хуткі правал. Так яно і здарылася. Калі аб'ём ДКА і працэнты па іх сталі перавышаць адну трэць бюджэту Расіі, фінансавы рынак даў цечу.

У Беларусі ж гэтых прычын для развіцця фінансавага крызісу няма. Сам рынак ДКА быў створаны і пачаў дзейнічаць толькі два гады таму. Сёння рынак ДКА аперыруе даволі маленькай сумай грошай, бо дзяржава выпускае каштоўныя паперы пад маленькія працэнты (каля 40 працэнтаў гадавых). Акрамя таго, галоўны пакет ДКА скупляецца Нацыянальным банкам, што выключае імавернасць нейкай рызыковай фінансавай гульні.

**— Ці не падарве фінансавы крызіс у Расіі давер нашага насельніцтва да банкаўскай сістэмы?**

— Пакуль што вялікай панікі сярод укладчыкаў няма. Праўда, ёсць людзі, якія пачалі зніваць уклады. Я іх разумею. Яны зведваюць пэўны страх, што і нашы айчынныя банкі пачнуць «валіцца». Што датычыцца дробных камерцыйных банкаў, то гэта сапраўды магчыма. Менавіта такія банкі скуплялі ў свой час расійскія ДКА і зараз у іх могуць быць праблемы.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## КРЫЗІС У РАСІІ ДАСЯГНУЎ КРЫТЫЧНАЙ МЯЖЫ. УЧОРА ТАМ БЫЛІ АДМЕНЕНЫ ТАРГІ ПА ДОЛАРУ

Бадай, учарашні прэцэдэнт, які здарыўся на расійскім валютным рынку, — лішні доказ таму, што крызіс у гэтай краіне дасягнуў сваёй крытычнай мяжы. Таргі на Маскоўскай міжбанкаўскай валютнай біржы па долару ЗША, курс якога дасягнуў у сераду васьмі рублёў і 26 капеек за адзін USD, былі Цэнтрабанкам адменены. Дарэчы, учора галоўны банк Расіі быў адзіным, хто прадаваў на біржы долары, астатнія ліхаманкава скуплялі «гаранты» сваёй будучыні. Фондавы рынак таксама прынёс сюрпрызы: акцыі працягвалі падаць. Нават акцыі Газпрама, кошт якіх у аўторак падняўся на 20 працэнтаў, учора ніхто не хацеў купляць. На фоне агульнага крызісу цікавым выглядае заява старшыні федэральнай камісіі па каштоўных паперах, які сказаў, што ўмовы рэструктурызацыі дзяржаўных папер не такія ўжо і дрэнныя для стратэгічных доўгатэрміновых інвестараў.

А што датычыцца расійскіх інвестараў? Многія аналітыкі аднадушныя: умовы рэструктурызацыі балюча ўдараюць па іх — грошы апошнім патрэбны зараз. Між іншым, апошнія падзеі на фінансавым рынку, на думку многіх песімістычна настроеных спецыялістаў, — яшчэ не крайняя мяжа крызісу. З другога боку, куды ўжо далей!

«Адсочвае» падзеі на рынку Расіі і беларускі рубель. Курс яго ў адносінах да наяўнага долара сігануў у чацвер на «чорным рынку» з раніцы ўжо на адзнаку ў 78 тысяч рублёў за адзін USD.

Уважліва за сітуацыяй у суседняй дзяржаве (што зразумела) сочаць і беларускія эканамісты.

***Свае думкі наконт падзей у Расіі мы папрасілі выказаць прафесара БДУ Міхаіла КАВАЛЁВА.***

— Па-першае, я лічу, што дэвальвацыі рубля можна было пазбегнуць, эфект ад яе будзе толькі адмоўным. Па-другое, дэвальвацыя была выгаднай нафта-газаваму лобі: паколькі сусветная цана на нафту і газ падае, а рублёвыя затраты з-за цяжкіх умоў распрацоўкі радовішчаў вельмі вялікія, гэтым кампаніям хацелася павялічыць рублёвую выручку, якую яны атрымліваюць пры перапліку прададзеных за долары нафты і газа.

**— Аднак факт застаецца фактам: Масква адпусціла рубель.**

— Так. Але калі там рашыліся ўсё ж такі на дэвальвацыю, то, на мой погляд, яе трэба было правесці скачкападобна, палічыўшы на якім узроўні курса хопіць рэзерваў. І аб'явіць бы тым, што ў Расіі адбылася дэвальвацыя рубля з курса 6,8 рубля за долар, напрыклад, да 8. А далей далі б тлумачэнне, што курс будзе на працягу доўгага перыяду стабільным паралельна з тымі непапулярнымі мерамі, якія прыняў урад па рынку ДКА і па выплатах нерэзідэнтам. Гэта дапамагло б пазбегнуць панікі. Зараз дэвальвацыя рубля адбываецца ў асноўным да таго моманту, пакуль не ўдасца спыніць паніку.

**— Здаецца, фігура Чарнамырдзіна, які зноў стаў на чале ўрада, павінна была б заспакоіць і інвестараў, і насельніцтва.**

— Так, у Расіі на гэта разлічвалі. Аднак, як аказалася, гэтага не адбылося. Усе разумеюць, а замежныя эканамісты адкрыта выказваюцца, што той тэхнакратычны ўрад быў намнога больш прафесійным, чым той, які будзе сфарміраваны з палітычных, а не з эканамічных меркаванняў.

**— Кепскі прыклад заразлівы. Падобнае можа адбыцца ў нашай рэспубліцы?**

— Расійскі фінансавы крызіс дае нам два вялікія ўрокі. Папершае, ніколі не трэба «захапляцца» замежнымі партфельнымі інвестыцыямі, гэта значыць інвестыцыямі прыцягнутымі з-за мяжы ў ДКА і гэтак далей, таму што гэты рынак спекулятыўны і няўстойлівы. Ён можа ў любую хвіліну абваліць курс нацыянальнай валюты. Трэба аддаваць перавагу, што і робіцца ў Беларусі, прамым інвестыцыям, калі грошы ўкладваюцца ў канкрэтны завод, у канкрэтную справу, і іх немагчыма выцягнуць. І наогул захапляцца фондавым рынкам, пакуль няма прамысловасці — бессэнсоўна. У Расіі стварылі магчымасць спекуляцыі акцыямі заводаў, зусім не думаючы аб тым, як гэтыя заводы жывуць.

Па-другое, атрымаў урок і МВФ: Расія ўсё рабіла дакладна ў адпаведнасці з рэкамендацыямі МВФ і Сусветнага банка. Яе за гэта пастаянна хвалілі. Але гэты вопыт паказвае, што даная нядбача Сусветнага банка ўжо другая пасля азіяцкіх падзей. Аказалася, што «сацыялістычныя» грошы Сусветнага банка вельмі лёгка могуць перайсці ў кішэні канкрэтных спекулянтаў у выніку добра арганізаваных спекулятыўных крызісаў. І, відавочна, што непасрэдны імпульс да дэвальвацыі расійскага рубля быў зададзены Сорасам, гэта значыць, ён у даным выпадку і яго дзеянні адыгралі не лепшую ролю ў падзеях у Расіі.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 26 ЖНІЎНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| **Мінск (017)** | | | | | | | |
| Белпрамбудбанк | 59200 | 59800 | 32600 | 33290 | 6580 | 7600 | 233-2110 |
| Мінсккомплексбанк | 59500 | 60000 | 33100 | 33400 | 7500 | 7600 | 228-2047 |
| Пріорбанк | 58500 | 60000 | 32600 | 33400 | 7000 | 7600 | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) афіцыйны курс | 49000 | | 27196.54 | | 6100 | | Курс на 27.08.1998 |
| спецыяльны курс | 50000 | | 27800 | | 6250 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 7.8600 | | 4.3630 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

***Першы выпуск штогадовага даведачнага альманаха «Курсы Нацбанка РБ і Цэнтрабанка РФ» за перыяд з 1990 па 1997 гады можна набыць, пазваніўшы па тэл. (017) 228-59-80.***

## УРАДЖАЙНАСЦЬ КАТАСТРАФІЧНА ПАДАЕ

Дрэнnae надвор'е працягваецца — за апошнія некалькі дзён не было, напэўна, ніводнага рэгіёна, дзе б не прайшоў дождж. Усё гэта аказвае свой уплыў і на тэмпы, і на якасць уборачных работ. Тэхніка практычна не працуе на палетках. Па прагнозах сіноптыкаў дажджы чакаюцца на працягу ўсяго тыдня. Таму 5-працэнтныя тэмпы ўборкі не вытрымліваюцца ніводным рэгіёнам. Таксама з-за дрэннага надвор'я не будуць выканаfны прызначаныя на пачатак верасня дажынкі. Агульны пакасчык складае 23,8 цэнтнера з гектара. Прычым даволі прыстойныя сярэднія лічбы атрымліваюцца ў асноўным дзякуючы Гродзенскай вобласці, дзе ўраджайнасць трымаецца на мяжы 31—32 ц/га. У астатніх рэгіёнах гэты пакасчык значна ніжэй: Брэстчына — 24, Віцебшчына — 19,5, Гомельшчына — 21, Мінshчына — 23,3, Магілёўшчына — 22,3 ц/га.

Усяго ў Беларусі па апошніх даных убрана збожжавых і зернебабовых на плошчы 1,8 мільёна гектараў (72 працэнты агульнага пакасчыка). Самыя нізкія лічбы ў Магілёўскай вобласці — 61 працэнт. Гэты рэгіён нават адстаў ад Віцебшчыны, дзе ўжо апрацавалі 63 працэнты. Лідзіруюць жа па-ранейшаму Брэсцкая і Гродзенская вобласці — 86 і 82 працэнты адпаведна. Дарэчы, Гродзеншчына ўжо «перасокнула» праз мільён тон агульных намалотаў. Па рэспубліцы ж гэты пакасчык складае 4,2 мільёна тон.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

***УСМІХНЁМСЯ***



**Прывыкаем да калектывізму.**

Фота Ігара ПЯТРОВА.

*Мужык прыязджае з дому адпачынку і ў сябе на працы дзеліцца свежымі ўражаннямі. Ён паказвае пальцам на групавы фотаздымак:*

*— Гэта са мной была... А тая з гэтым...*

*Адзін з супрацоўнікаў бачыць на фотаздымку сваю жонку, якая ў гэты час таксама была ў доме адпачынку, і дрыжачым голасам пытае:*

*— А гэта, гэта з кім?..*

*— А гэта ў нас самая прыстойная. Як з мужам прыехала, так з ім і назад паехала.*

ГУМАРЭСКА?

МЕНЮ

# САЛОДКАЕ ЖЫЦЦЁ

Але ж і добрыя часы надышлі. Навокал, ну не сказаць каб поўнае, ды ўсё ж насычэнне тварамі. Выходзіш на вуліцу і адразу — на табе: латок з бананамі. Тут жа яблычкі, ігрушкі, апельсінчыкі, мандарынчыкі, даруй Божа, хурма... ды ўсяго не ўпамятаеш. Ступіш далей — упрэшся носам у камерцыйны кіёск, а там поўна цыгарэт, шакаладак, жвачак. З'еў, пакурыў, пажаваў, выплюнуў і — парадак! Далей — болей. Шопы кругом. Людзі, кругом — шопы! Зойдзеш — душа шамаціць. Чыста, акуратна. На паліцах поўна рознакаляровых каробак, яркіх шклянак, інтрыгуючых бутэлек. Побач з гэтым хараством асілак мардаты стаіць. Так лагодна ўсміхаецца, што адчуваеш — калі чаго не купіш, адсюль цэлым не выбярэшся. Усё ж, пераадольваючы магнетызм установы, вывальваешся на тратуар і шпарыш далей.

Мама родная — супермаркет! Заходзіш — галава кругам. Хістаешся па казачных пераходах, застаўленых усялякай усялячынай, баючыся страціць прытомнасць і што-небудзь тут раскалашмаціць, і зусім ужо ачмурэлы выплываеш на вуліцу. І так, як у дыме, заварочваеш пад арку ўваходу на Камароўскі рынак — і ўсё... Так, і ўсё... Па дрэнна паголенай кітайскім лязом барадзе ракой цякуць слінкі ад водару вяндліны і каўбасы. Выгляд асвежаваных свіней надае ўпэўненасць у заўтрашнім дні.

Паўз казінага малака, мёду, селядцоў, алею — далей, далей — туды, дзе ўжо за межамі сферычнага даху пад доўгімі навесамі ўздымаюцца піраміды чырвоных памідораў, зялёных агуркоў і аранжавай морквы. Тут вам і баба з вядром сліў, і хлапчук з кошыкам лісічак, побач мужык трымае доўгага слізкага шчупака, старажытнага, як торф з Палесся. Тут жа няголеная асоба з парай амаль не ношаных жаночых ботаў, ад якіх чамусьці густа цягне півам. А вы калі-небудзь нюхалі марынаваны часнок? Не? Ну і Бог з вамі. Вам ужо не дапаможаш.

Ногі нясуць мяне наперад скрозь лабірынт скураных куртак, падвешаных дзесьці ля самага неба, паўз горы джынсаў усіх колераў вясёлкі, нейкіх жаночых рэчаў, невядома да чаго прыкладаемых. На паветра, на прастору, бліжэй да хаты. Па дарозе забягаю ў гастраном, купляю ячневых круп, пачак маргарыну і на кухню... піраваць...

Не, усё ж салодкае жыццё надышло! Дзякуй усім!.. За ўсё... Няхай вам добра будзе...

**Леанід РАЗЛАДАЎ.**

## ФУТБОЛ У СТЫЛІ РЭТРА

Незвычайны матч, якому могуць пазайздросціць і сталічныя футбольныя гурманы, сабраў на сваіх трыбунах больш за чатыры тысячы гледачоў. Адбыўся ён на салігорскім стадыёне «Будаўнік». Адгукнуўшыся на запрашэнне кіраўніцтва ВА «Беларуськалій», ветэраны знакамітай каманды кіеўскага «Дынама» згадзіліся свой першы матч у Беларусі правесці менавіта з ветэранскай камандай аб'яднання.

І хоць прыехалі не ўсе, каго чакалі (А. Біба, Я. Рудакоў, В. Колатаў і іншыя), гульня прынесла нямала хвілін асалоды мясцовым аматарам скуранога мяча. Бо ў саставе кіяўлян гулялі Віталь Хмяльніцкі, Пётр Слабадзян, Аляксандр Дамін, Аляксандр Бойка, Міхаіл Аліфірэнка і іншыя, якія ў саставе «Дынама» станавіліся і чэмпіёнамі, і ўладальнікамі Кубка СССР, чэмпіёнамі і прызёрамі маладзёжных першынстваў свету і Еўропы. А ў варотах украінскай каманды гуляў добра вядомы беларускім балельшчыкам са стажам Васіль Кірычэнка — па выступленнях і за «Дынама» мінскае.

І нават праліўны навальнічны дождж у першым тайме не сапсаваў гэтага цудоўнага спектакля. Ветэраны «Беларуськалія» давялі гэты захапляючы матч да перамогі — 6:4.

**Рыгор ГАНЖУРАЎ.**

## УСЁ ПРА ЎСЁ

### ЖОЎТЫ КОЛЕР — ГЭТА СІМВАЛ ЖЫЦЦЯ

Як вядома, колеру падаранага букета або кветкі заўсёды надаецца немалаважнае значэнне. Лічыцца, што белы сімвалізуе пакланенне перад маладосцю і чысцінёй, чырвоны — знак палкага кахання, блакітны — клятва ў вернасці і т. д. А жоўты, невядома толькі чаму, лічаць прадвеснікам хуткага разлучэння, здрады і іншых непрыемнасцяў. Хоць вядома, што дзеці ў маленстве першым пачынаюць адрозніваць жоўты колер, пэўны час аддаючы яму перавагу. У будыстаў жоўты колер — гэта сімвал жыцця. А медыкі сцвярджаюць, што ён паляпшае страваванне, павышае тонус і настройвае на даверлівыя адносіны. І пагадзіцеся, ён так удала ўпрыгожвае любы букет.

### ХТО НА ЧЫМ АДПАЧЫВАЕ

Самым распаўсюджаным месцам для сну ў Заходняй Еўропе з'яўляецца двухспальны сямейны ложак, а ва Усходняй — нізкая кушэтка. Адпаведна ў качэўнікаў — кавалак лямцу; у народаў Поўначы — шкура аленя, у чарнаскурых афрыканцаў — бярэмя пальмавых лістоў; у індзейцаў Паўднёвай Амерыкі — падвесны гамак, а ў карэнных жыхароў Гавайскіх астравоў — спальны мяшок з пуху і пер'я райскіх птушак. У Кітаі спяць на шырокіх гліняных лавах. Самы вялікі ў свеце ложак быў у Філіпа Бургундскага. Яго шырыня складала 3,81 метра, а даўжыня — 5,75 метра.

### МАРОЗ — ЛЕПШЫ ПАМОЧНІК У РАБОЦЕ

Прэзідэнт адной з амерыканскіх камп'ютэрных кампаній Алан Лэмбрын знайшоў цудоўны спосаб павысіць эфектыўнасць работы «вышэйшага эшалона» сваіх супрацоўнікаў. Калі загадчыкам аддзелаў неабходна прыняць важнае рашэнне, ён запрашае іх на нараду ў спецыяльную халадзільную камеру памерам сем на дзевяць метраў, дзе тэмпература ніжэй нуля. Сядзяць яны на блоках лёду ў звычайных касцюмах. Таму нядзіўна, што ніхто не губляе час на пустыя размовы, высвятленне адносінаў і пратакол. На рашэнне самых важных пытанняў хапае 10—15 хвілін. З таго часу, як на дырэктарскім паверсе з'явіўся ледзяны кабінет, прыбытак кампаніі павялічыўся ў тры разы.

Да такога незвычайнага вядзення спраў Алан Лэмбрын прыйшоў пасля таго, як аднойчы зімой у зале пасяджэнняў выйшла раптам са строю сістэма ацяплення. Усе так імкнуліся хутчэй адтуль выбрацца, што вырашылі праблемы літаральна за некалькі хвілін. Вось яшчэ адно пацвярджэнне народнай мудрасці: усе справы лепш вырашаць на халодную галаву.

### КУСАЙЦЕ НА ЗДАРОЎЕ!

Амерыканскія індзейцы здаўна карыстаюцца пры болях у суставах паслугамі... мурашак. Для гэтага яны ўзбіраюцца на дрэвы, пад якімі знаходзяцца мурашнікі, і дазваляюць агрэсіўным насякомым кусаць сябе. Пасля гэтага яны скачуць у ваду, каб змыць іх са сваёй скуры.

Каб праверыць гэты старадаўні народны метад лячэння, амерыканскія вучоныя правялі эксперымент. Узяты ад мурашак яд упырснулі двумстам пацыентам, хворым на рэўматызм. Гэта выклікала значнае паляпшэнне іх здароўя. Яд аказаў супрацьзапаленчае дзеянне, змяншаючы болі.

**Па матэрыялах друку падрыхтавала Вікторыя КЛЯНОВІК.**

*Сяргей ШАЎЦОЎ*

# САБАКА, ЯКІ БЕГ КРАЕМ ПОЛЯ

АПАВЯДАННЕ

ЛЁХА ЗАКЛАЎ яшчэ адзін віраж. Мужык усё так жа расслаблена прыкладваўся да бутэлькі. Лёха рашыўся:

— Прашу прабачэння, вам бутэлька трэба?

— Поўная — так, а пустую табе аддам.

— Дзякуй вам...

— Дзякуй, дзякуй... На, ідзі купі сабе піва. Не магу бачыць, як людзі пакутуюць з пахмелля.

Зусім дзіўны мужык. Такія сустракаюцца, па вопыту ведаў Лёха. Але адзін на сотню. Звычайна чакаеш горшага. Бывае, гыркнуць з нянавісцю, могуць спецыяльна бутэльку пабіць. Розны народ, пераважна злы.

А ў Лёхі праблемы: другі дзень не можа ніводнай бутэлькі падабраць. Пайшоў, было, на вакзал — і быў рады, што ўцёк цэлы. На вакзале даўно ўсё падзелена. Прыходзілася цягацца далей. І вось яму пашанцавала на тралейбусным крузе. І півам пачаставалі, і дзве бутэлькі ёсць.

А тут яшчэ Лёху ад паўнаты пачуццяў пацягнула на размовы. Мужык слухаў, задуменна ківаў. А калі пачуў, што ў Лёхі заўтра дзень нараджэння, ледзь прыкметна ўсміхнуўся:

— Многа, прабач, не магу...

І даў Лёху дзесятку. Паціснуў руку і пайшоў. «Ёсць жа людзі...» — падумаў Лёха. Але тут да яго дайшло, што мужык наконт дня нараджэння не паверыў. Яму і жонка некалі казала: «Дуб ты дуб. Да цябе на трэція суткі даходзіць».

Лёху стала крыўдна. Ён быў дзіўнаваты бомж. Гаварыў праўду, а яму не верылі. Лёха і не здагадваўся, што праўда часта выглядае хлуснёй і наадварот. Заўтра яму сапраўды спаўнялася сорак чатыры гады, а ён заставаўся чыстым, наіўным хлопчыкам...

Ад піва Лёха захмялеў. Ужо суткі ён нічога не еў. У Лёхі была схавана дваццатка, але ён яе бярог: «Заўтра ад'емся». Лёха разлічваў купіць пару бутэлек віна, каўбасы, салёнай кількі (ён яе надта паважаў), цэлы бохан хлеба, нарэшце, пачак «Астры», бо «бычкі» курыць ужо надакучыла. І ўсё гэта зараз было пад пытаннем — з бутэлькамі справа дрэнь...

Былая жонка Лёхі жыла непадалёк ад горада. Якая-небудзь гадзіна язды. Калі Лёха, радасны, вярнуўся з «хіміі», дзверы яму адкрыў рабы, лысаваты бугай:

— Вам ково?

Лёха глянуў на нумар кватэры — той. «Мо памянялася?» Але жонка ўжо выглядвала з-за бугаёва пляча.

Лёху ўпусцілі. На кухні жонка, паглядваючы на бугая, паведаміла, што «мы, Лёшанька, ужо не муж з жонкай, з кватэры я цябе выпісала, вось сустрэла харошага чалавека, з Федзем мы добра жывём, ты, Лёша, зразумей, якая мы былі сям'я, ты ідзі, ідзі, Лёша, што ж, можа, і ў цябе наладзіцца, ідзі, вой, што ты, што ты, Феддзя!» Слабы Лёхаў бунт быў падаўлены бугаём.

Потым Лёха сядзеў на лаўцы ля пад'езда, ашаломлены і аглушаны. «Вось як яно бывае...» Спрабаваў закурыць, рукі так трэсліся, што Лёха сам здзівіўся. Да гэтага было жыццё, і вось яго не стала — гэта Лёха адчуў.

Ён, канешне, «загудзеў». Часцяком начаваў у міліцыі, яго ўжо тут добра ведалі. Аднойчы дзяжурны лейтэнант сказаў яму:

— Ну, вось што, хлопец... Трапіш сюды яшчэ, май на ўвазе, пойдзеш па этапу. Па-чалавечы пакуль раю: вымятайся з горада. Толькі справаздачнасць псуеш...

Лёха і сам разумеў — горад невялікі, згубіцца цяжка — трэба ехаць. Куды? А якая розніца? Лёху нідзе не чакалі...

... Лёха вырашыў пад'ехаць «на прыроду». Мужыкі выпівалі там пастаянна. Называлі: рэстаран «Тры бярозкі». На гэты раз была толькі адна кампанія. Вакол круціліся ажно трое бабулек — канкурэнты. «Ні храна, — са злосцю падумаў Лёха. — Гэта мы яшчэ паглядзім». Ён падышоў бліжэй і заўважыў: у траве блішчыць, і шмат.

— Мужыкі! Не трэба? — Лёха крыкнуў громка, весела, а сэрца калацілася.

— Што? А-а... Забірай...

Лёха хуценька сабраў бутэлькі, іх было ажно шэсць — і толькі яго бачылі. Азірнуўся — адна бабулька трэсла ўслед кулачком. «Трасі, лярва старая... Ты пенсію маеш, а я...»

У Лёхі разгарэўся паляўнічы азарт. Восем бутэлек за пару гадзін — гэта ўдача. «Хоць бы штук дваццаць... Тады я жыву...»

У сметніцах ён здабыў яшчэ дзве бутэлькі. Усяго стала адзінаццаць. Дваццаць сем тысяч пяцьсот рублёў. І яшчэ прыхаваная дваццатка. Мала.

Але цямнела. Пара было падумаць пра начоўку. Вось яшчэ гэта начоўка... І зіма была сёлета гнілая, і пачатак лета мокры і халодны. Лёха папакутаваў. Увесь час хацелася спаць. Аднойчы, пасля ночы, праведзенай на аўтобусным прыпынку, Лёха не вытрымаў. Нахабна зайшоў на аўтавакзал і проста ўпаў на лаўку. Пабудзілі яго, канешне, хутка. У аддзяленні Лёху трымалі гадзіны з тры. Ён рашыў: павязуць у «клапоўнік». Але абышлося. На развітанне далі пару разоў дубінкай — на гэта Лёха нават увагі не звярнуў. Гэта было прывычна.

Калі-нікалі ўдавалася пераспаць на перагаворным пункце. Ноччу ніхто званіць не ходзіць. Міліцыя таксама сюды не заходзіла. Праўда, усё залежала ад змены. Некаторыя не гналі. Другія выклікалі нарад. Прыходзілася ўцякаць на холад, пад снег ці дождж. Адна тэлефаністка запомнілася Лёху добра. Ён толькі задрамаў, як яго груба штурхнулі. Адкрыў вочы, зараней гатовы да ўсяго, перад ім стаяла раз'юшаная дзяўчына, даўганогая, ярка-прыгожая. Лёха разгледзеў крывавыя вусны.

— Ты чего тут расселся, мразь! А вонищи, вонищи! Таня, звони в милицию! Вали отсюда, наркот!

А Лёху, як заўсёды, затрэсла дробна-дробна. Кожны раз потым, як перад вачамі ўзнікаў няясны твар з чырвонай плямай ірта, Лёха чырванеў. Ён усё ж быў мужыком. Такое прыніжэнне ад маладой жанчыны было надта балючым...

Нядаўна яму пашанцавала. На развілцы, побач з новай бензакалонкай Лёха знайшоў закінутую хату. Яе пачалі было зносіць, ды кінулі. Лёха асцярожна абследаваў хаціну і наваколле. Нікога і нічога. А ў хаце была нават старая канапа! Лёха і паверыць не мог, што такое магчыма. Праўда, начаваў ён тут рэдка — таксама бярог на крайні выпадак. Сам для сябе рашыў адзначыць тут дзень нараджэння. У халупе быў яшчэ сухі цёплы падпол. Там можна і свечку запаліць, ніхто не заўважыць.

Але сёння Лёха ідзе начаваць у сапраўдную кватэру. Не проста так, яго запрасілі. З Толікам яны «карашыліся» яшчэ на «хіміі». Толіку пашанцавала больш. Ён вярнуўся да маці. Нават недзе працаваў. Маці не так даўно памерла і Толік спраўляў хаўтуры вось ужо другі месяц запар.

— А-а, братка! Заходзь! Лёха, сябрук ты мой! — на кухні ў Толіка сядзела чалавек пяць. Лёха крыху, каб не пакрыўдзіліся, пастаяў. І хуценька знік, лёг спаць: сёння яму чамусьці людзей бачыць не хацелася...

Прысніў ён сабаку. Сабака быў чорна-сівы, кульгавы, з галоднымі сумнымі вачамі. Лёха яму пасвістаў і кінуў кавалак хлеба. Сабака яго імгненна праглынуў і глядзеў чакаючы. Потым падышоў, лёг, паклаўшы галаву на лапы. Лёха яго пагладзіў і сабака паварушыў хвастом. Нібыта сказаў: дзякуй за хлеб, чалавек, я б яшчэ хацеў, ды сам разумею — у цябе няма. Далей сабака ўстаў і цяжка, стомлена пачыкільгаў па вуліцы. А вуліца, сніў Лёха, была вуліцай яго вёскі. Ён не здзівіўся, а пайшоў за сабакам. Хацеў яго дагнаць, пайсці побач, але дагнаць не змог, хоць ужо бег. Узнікла жоўтае поле жыта. Па яго краю бег чорны кульгавы сабака, а за ім — Лёха.

Лёха прачнуўся і доўга ўспамінаў сон. Яму здавалася, што гэтага сабаку ён ужо бачыў. Лёха не прыйшоў ні да якой высновы і сказаў уголас:

— З днём нараджэння вас, Аляксей Пятровіч! Хрэн маржовіч...

Выйшла хрыпла і ціха.

Будзіць гаспадара Лёха не стаў. З ім, пахмельным, было цяжкавата.

... Сёння яму зноў шанцавала ўвесь дзень. Ён назбіраў трыццаць дзве бутэлькі, хуценька здаў. Дапамог на рынку разгрузіць машыну — яму далі пяцёрку і памідораў. Там жа Лёха віртуозна сцягнуў зялёнай цыбулі і пару гуркоў. Выходзіла — стол будзе багаты.

Потым Лёха мыўся ў лазні, тое-сёе і з сябе памыў і высушыў на батарэі. «Ну, от, свята ў чыстым сустрэну...» Дазволіў сабе бакал піва. Пагаварыў з «калегам», той прапанаваў «зкаапераваца», але Лёха адмовіўся: не хацелася псаваць светлы лёгкі настрой. Потым хадзіў па магазінах, купіў усё удала — танна. Было хораша на душы: ніхто не зачапіў, не аблаяў, не плюнуў услед, — што яшчэ трэба? Чалавеку, кінуўся разважаць Лёха, для шчасця неабходна зусім мала. Але далей такой грунтоўнай думкі Лёха не пайшоў — не яго гэта быў жанр. Стала толькі крыху сумнавата.

... А сёмай гадзіне вечара Лёха ціхенька залез у падпол. Запаліў свечку. З асалодаю пакурыў цэлую цыгарэту. Нетаропка накрыў на стол. Пасядзеў, паўздыхаў, задумаўся. Зубамі адкрыў першую бутэльку. І наліў. Свята пачалося...

... Пажарнікі прыехалі праз хвіліны — іх часць была непадалёк. Патушылі палаючую хату даволі хутка. Сырым ранкам агледзелі абгарэлае бярвенне. Як быццам, нікога.

Лёху так і не знайшлі...

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйнага — 68-27-41, крымінальнай хронікі і фінансавых экспертыз — 32-38-02, эканомікі — 32-31-21, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве —31-13-75; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі. Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі. Матэрыялы, пазначаныя значком носяць рэкламны характар. Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 81.779. Індэкс 63850.
Зак. № 5108.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12